УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
С74

Малюнкі
*Волі Барай, 12 гадоў*

Мастацкае афармленне
*Надзеі Барай*

*Для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту*

**Спрынчан, А. В.**

С74 Таташ Яраш, мамана Аксана, дачэта Альжбэта. Поўны эксклюзіў : гісторыі з-пад фіялетавага парасона : для дашк. і мал. шк. узросту / Аксана Спрынчан ; мал. Волі Барай.— Мінск : Маст. літ., 2013.— 63 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1442-3.

«Таташ Яраш, мамана Аксана, дачэта Альжбэта. Поўны эксклюзіў» — пазітыўная і пазнавальная кніга пра сям'ю, словы і сваю краіну. Шчасце — адначасна і проста, і эксклюзіўна, калі сям'я поўная любові да гульняў, прыгодаў і творчасці. Гэтая кніга для тых, хто хоча запэўніцца, што ягоная сям'я — не меней цікавая і вясёлая. Дзяўчынка Альжбэта дзеліцца з вамі сваімі сакрэтамі і парадамі і чакае вашых на адрас: DachetaAlzhbeta@tut.by.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-02-1442-3**



ям нічога жахлівей за дождж. Толькі не падумайце, што для мяне. Вядома ж, не. А для каго? — запытаеце вы. І мне давядзецца прызнацца, што для майго таты. Ён нічога ў свеце не баіцца. Нічога, апрача дажджу. Яго не ратуюць ні гумовікі, ні марынаркі, ні парасоны. Ён кажа, што адразу вымакае наскрозь, і гэта вымагае выдаткаў: шмат вады на ванну і гарачую гарбату, нямала малінавага сочыва, фена, лепшага, чым у феі, і яшчэ безліч прыемных дробязяў, нават для тых, хто не вымакае.

Мой тата ніяк не можа даць веры, што кагосьці ратуюць гума, плашчоўка і тканіна на спіцах. Ён нават думае, што і ад гісторый, як і ад яго, пасля дажджу застаюцца адныя






ніткі. Хоць колькі я не глядзела на змоклага тату, ніякай ніткі не бачыла: ні белай, ні чырвонай, ні доўгай, ні кароткай. Можа, толькі дарослыя бачаць гэтыя ніткі. Але тату я веру, і таму мы з мамаю пачапілі на старой грушы стары фіялетавы парасон, каб хаваць пад ім гісторыі для таты.

І гісторыям пад ім вельмі спадабалася. І не толькі ў дождж, але і ў спёку. І ўлетку, бо ў слове «фія-лета-вы» ёсць слова «лета». І ўзімку, бо парасон нагадвае лета.

Аёй, забылася сказаць, што мяне клічуць Альжбэта. Маё імя рыфмуецца са словамі «гэта» і «лета». І тата часта паўтарае: «Альжбэта — гэта лета». Насамрэч прыдумала тое мама. Але тата будзе дужа перажываць, калі я скажу яму пра гэта. А навошта, каб нехта перажываў у сям'і, дзе жывуць у рыфму таташ Яраш, мамана Аксана і дачэта Альжбэта.

ДАЧЭТА
АЛЬЖБЭТА



## «Рады не рады — мае парады»

Прыадчыню вам таямніцу: я — парадыстка. Але не ўсё гэтак проста: я не толькі люблю гумар і сатыру, не толькі люблю парадзіраваць тых, каго люблю. Я — парадыстка, бо люблю даваць парады. І таму рады не рады — чакайце мае парады пасля кожнай гісторыі, сур'ёзныя і з іроніяй.



# Начны бражнік

Мой таташ Яраш — гісторык і музыка. Але гэтым усё не ахопіш. Чым ён толькі не займаўся ў сваім жыцці! І чым ён не займаўся, з ім заўжды здараліся неверагодныя гісторыі.

Неяк ён павёз экскурсію ў Мосар. Не, ён не кіроўца аўтобуса, як вы маглі падумаць, а гід (калі некаму падаецца, што гід — гідкае слова, дык ён можа ламаць свой язык праз слова «экскурсавод»). У вольны час для экскурсантаў таташ Яраш гуляў па могілках, расчытваючы, што напісана на помніках. І пабачыў вусеняў начнога бражніка. Бражнік — гэта такі мятлік. А вусені ягоныя з рогам, нібы ў насарога. Таташ Яраш вырашыў выгадаваць некалькі мятлікаў і захапіў з сабою вусеняў. Прывёз іх у Мінск. Але выявілася, што няма чым іх карміць, бо малачай, які рос каля шматпавярховіка, яны не ўжывалі. І татку давялося хадзіць па мінскіх могілках і шукаць патрэбны гатунак малачаю. Неяк ён вяртаўся з прысмакамі для мятлікаў і каля пад’езда яму затэлефанаваў сябра. На лаўцы сядзела бабулька, якая даўно марыла хоць як-колечы дапамагчы міліцыі. Яна адразу ж наматала на вус (свайго дзеда?) крымінальныя словы





## Рады не рады — мае парады:

Як ні дзіўна, паветраны змей можа быць паводле формы мятлікам. Да таго ж бываюць змеі-манахі і змеі-птушкі, а таксама пляскатыя і скрынкавыя змеі. Паветраны змей — сімвал маёй сям’і. Мы любім яго запускаць, і нас не стрымаць ніякім бабулькам-суседкам. Завядзіце сабе такога сябра, і ён аб’ яднае вашу сям’ю.

«малачай» і «начны бражнік». Далей ёй засталося толькі набраць 102 і паведаміць: «Высокі, патлаты, вусаты тып збірае на могілках расліну з белым малачком і поіць ім дзяцей, пасля чаго яны становяцца наркаманамі, ён іх для канспірацыі называе начнымі бражнікамі. Казаў праз тэлефон, што яны жывуць у ягонай хаце. Тэрмінова выязджайце!» Міліцыя прыехала, абшукала хату і знайшла слоік з вусенямі і малачаем. Але дзеля ўсяго дзеля адбіткі пальцаў у таташа Яраша ўсё ж такі ўзялі. Бабульцы выказалі ўдзячнасць за пільнасць. І яна яшчэ неаднойчы заканчвала сваю размову словамі «Тэрмінова выязджайце!». Прынамсі, міліцыя яшчэ наведвалася да нас, калі я апавядала сяброўцы, а бабулька пачула, што мы запусцілі змея.



# Горад, які можна пабіць

Мы любім сесці з маманай Аксанай і таташам Ярашам на канапу, піць гарбату і шукаць словы ў словах. Сёння мы пастанавілі шукаць іх у назвах беларускіх гарадоў. Магчыма, такая пастанова і не была б прынятая, калі б я не пабіла шкляную жабку з мамінай калекцыі, выробленую ў Барысаве.

Кожная іншая мама насварылася б на мяне, а мая весела запытала:

— Што варыцца ў Ба**рыс**аве?

— Рыс,— выгукнула я, збіраючы празрыстыя рысінкі-аскепкі.

— А з чаго можна зварыць смачны суп, назбіраўшы ў назве Барысава?

Тут ужо я задумалася, ніякай смакаты не праглядалася.— Барысаў, Ба-ры-саў, Бары-саў... Бары! Лясы, у якіх можна назбіраць грыбоў на фірмовы мамін суп.

Тата, пачуўшы, што мы, як заўжды, пачалі гуляць, не вытрымаў і далучыўся:

— Ну, суп і каша ёсць, але ж не стае яшчэ ві...

Я падумала, што віна, але мама рэзка працягнула:



— Ві-нігрэта.

«Няўжо ў бары́ прадаюць вінігрэт? — круцілася ў маёй галаве.— Загадкавы ўсё ж горад Ба-**рысаў**, у яго столькі цікавых рысаў».

Насамрэч у мяне з Барысавам праблема — я ўвесь час блытаю знаёмых з Барысава са знаёмымі з горада, які ўмее плакаць, як бабёр,— Бабруйска. Ой, зноўку заблыталася — не знаёмых блытаю, а адкуль яны. І знаёмыя з Бабруйска крыўдуюць, і знаёмыя з Барысава. Таму я стала і пры адных, і пры другіх размаўляць іншасказна, кшталту: «Як ты з’ездзіла ў горад маёй мары?»

У мяне няма старэйшага брата, і я, калі была маленькая, нават крыўдавала на маману Аксану і таташа Яраша. Пасля я зразумела, што магу быць толькі старэйшаю сястрою. Але сёння ўсё адно нібыта паміж іншым запытала:

— А хто ведае горад, у якога ёсць старэйшы брат?

— Не толькі старэйшы, але і стары — Наваполацк і Полацк,— хуценька сказаў таташ і запытаўся, нагадваючы мне пра пабітую жабку: — Горад, які можна пабіць?

— Шклоў,— хуценька прамовіла я гэтым разам.

А тата, нібыта забыўшыся на падзею, якая запачаткавала гульню, зноўку запытаўся:

— А ці ведаеш ты жабскі горад?

Я ведала, але мамана Аксана апярэдзіла мяне:

— Жабінка.

— А я ведаю гарады са звярамі і птушкамі,— сказала я,— і жвава агучыла: — **Ваўка**выск, **Баран**авічы, Ко**сава**, **Кажан**-Гарадок, **Слон**ім, **Тур**аў, **Рак**аў.

— Ракаў,— у задуменні сказаў таташ Яраш,— горад, які можна з’есці з пі…

«З півам»,— падумала я, але мамана Аксана рэзка прадоўжыла: «З пі-рагом». І адцягнула ўвагу наступным пытаннем:

— Вось з усіх гарадоў са звярамі і птушкамі, якія ты назвала, толькі адзін звер не беларускі — слон. Але ж ёсць яшчэ адзін горад з небеларускай істотай.





Таташ Яраш з любоўю паглядзеў на маму і сказаў:

— **Кобры**н.

— Мястэчка — антонім вайне,— як нічога ніякага парыравала мамана Аксана.

— Мір! Мір! — закрычала я і, звярнуўшыся да таташа Яраша, запытала: — А ці няма ў цябе ахвоты падараваць маме кветкавыя гарады?





— Анягож, дачэта Альжбэта, заўжды прыемна падараваць маме **Астра**-вец і П-**ружа**-ны.

— Ты б лепей не Ча-**вусы** свае круціў і не Ж-**лоб**-ін зморшчваў, а Ка-**пыл**-ь выцер,— засмяялася мамана Аксана.

— Дачэта Альжбэта, і хто дасць веры, што твая мама нарадзілася ў горадзе, які лунае — Лунінцы. Ка-**пыл**-ь мы лепей прыбярэм з дапамогай нашых «водных» гарадоў.

— Вой, я ведаю горад, які ў назве адной ракі, якая працякае ў Мінску, хавае назву іншай. Яна цячэ ў Польшчы. Гэта С-**вісла**-ч.

— Але ж, дачэта Альжбэта, ты і закруціла,— сказаў таташ Яраш,— а я ж толькі пра Белаазёрск падумаў і пра горад, які прытрымліваецца аднаго стылю плавання — **Брас**-лаў.



— А я ведаю горад, які не ў вадзе, як Венецыя, а над вадою,— прыдумала мамана Аксана.— Такое мала дзе ў свеце пабачыш.

Думалі-думалі мы з таташам Ярашам, але не прыдумалі.

### Рады не рады — мае парады:

Знайдзіце словы ў назвах беларускіх гарадоў і мястэчак: Дуброўна, Івянец, Мсціслаў, Плешчаніцы, Рэчыца, Сураж. Яны могуць сустрэцца і напачатку, і напрыканцы, і ўсярэдзіне.

Бо сапраўды файна прыдумала мама — надводная Венецыя — горад Масты.

Мы нават раней не ўяўлялі, колькі ў нас цікавых гарадоў: і горад, які, калі замяніць у ягонай назве адну літару, становіцца класікам беларускай літаратуры (Бы**х**аў — Бы**к**аў), і той, у цэнтры якога атам (Р-**атам**-ка), і горад, які калісьці даходзіў да крыку (Кры́чаў — Крыча́ў)...



А яшчэ мы шукалі ў назвах гарадоў імёны — **Ліда**, Мала-**рыта**, Жо-**дзіна**, **Іван**-ава, **Давыд**-Гарадок... і зноўку дабраліся да пабітае жабкі — **Барыс**-аў. І пакуль мамана Аксана шукала ў энцыклапедыі, чаму ж раўняецца лічба **Пі**-нск, мы з таташам Ярашам дамовіліся з'ездзіць у Барысаў па новую жабку.



# Настрой без рыфмы

Мамана Аксана і таташ Яраш апавядалі, што шмат хто адгаворваў даваць мне такое складанае імя, казалі, што яно жыццё дзіцяці сапсуе. А нехта нават прыдумаў, што «Альжбэта — катлета». І не бяды: катлета — цёплая, як лета. І смачная, калі без вялікіх кавалкаў цыбулі.



Сёння бацькі занятыя: тата рыхтуецца да канцэрта, а мама да сустрэчы з чытачамі. Я не ў гуморы, бо вельмі хацелася з бацькамі парыфмаваць імёны, а даводзіцца самой. Сяджу і ўзгадваю сяброў і сябровак.

Наташа — каша. Вой, як я не люблю кашу, асабліва манную. Колькі разоў даводзілася падманваць маману Аксану, выкідаючы кашу праз акно альбо змываючы ў чарупіну.

Янка — п’янка. Шалёныя крыкі — гэта жахліва, нават мур не ратуе ад падпітага суседа.

Сяргей — верабей. Ёсць такая маленькая шэрая птушачка.

Алесь — не лезь. І ўсе іншыя няхай не лезуць, а ў лес ідуць.




Валера — халера. Таташ Яраш апавядаў пра гэтую жахлівую хваробу.

Мікола — кока-кола. А тут ужо, калі паслухаць маману Аксану, няма нічога больш хімічнага за кока-колу.

Лявон — батон. Чэрствы і тоўсты.

Толік — алкаголік. Было падобнае.

Міхась — карась. Размаўляць не ўмее.

Паліна — яліна. Калючая. Праўда, зрэзаць можна на Новы год.

Алена — калена. І тое пабітае.

Воля — няволя.

Максім — зусім.

Напісала рыфмы і пайшла гарбаты выпіць. І мамана Аксана забегла нешта на зубок пакласці, як яна кажа. А насамрэч на ўсе 32 пакладзе. Запыталася ў мяне, што нарыфмавала.





# Гэта — карась Міхась



Я і прачытала.

— Ты ж любіш сваіх сяброў?

— Люблю.

— Дык чаму ж няма добрых рыфмаў?

— Добрыя не прыдумляюцца.

— Калі не прыдумляюцца добрыя, дык і зусім не трэба тады, лепей напішы каля кожнага імя які-колечы прыемны прыметнік,— сказала мамана Аксана і пабегла далей рыхтавацца да сустрэчы.





Паклала я аркушык, закрэсліла кепскія рыфмы і стала пісаць прыемныя прыметнікі:

Наташа — прыгожая.

Янка — разумны.

Сяргей — добры...

«Нешта занадта проста,— падумала я,— трэба прыдумляць прыемныя прыметнікі на тую ж літару, што і імя».

І ў рэшце рэшт на шматкроць закрэсленым аркушыку можна было расчытаць:



# А гэта — Міхась-карась

Наташа — натхнёная.
Янка — ясны.
Сяргей — смелы.
Алесь — адважны.
Валера — вясёлы.
Мікола — мілы.
Лявон — ласкавы.
Толік — таленавіты.
Міхась — музычны.
Паліна — прыгожая.
Алена — артыстычная.
Воля — выключная.
Максім — магутны.

Перачытала ўсе прыемныя прыметнікі і закарцела, каб усе яны былі пра мяне. Але ж калі мае сябры такія, значыцца, і я такая дзякуючы ім.

І ў гуморы.

## Рады не рады – мае парады:

Даведайся пра сябе і ты: укладзі спіс сваіх сяброў і напішы побач, якія яны.

| імя сябра | які ён |
| --- | --- |
| | |



## «У балоце ля Лысай Гары»



Жыццё з маімі бацькамі — поўны эксклюзіў. Мамана Аксана ўсё рыфмуе, а таташ Яраш усё спявае. Мамана Аксана таксама вельмі любіць спяваць, хоць у яе няма ні слыху, ні голасу. Адзінае, што яе ратуе, гэта тое, што яна спявае адно на свае словы. І таму яе можна апраўдаць тым, што песні — аўтарскія.



Як была я маленькая, мамана Аксана спявала мне ў балоце ля Лысай Гары.

Усё ж такі, якая моц у знаках прыпынку! Не ў балоце ля Лысай Гары яна, вядома, мне спявала, а ў крэсле ля ложка. Гэта калыханка ейная так пачыналася — «У балоце ля Лысай Гары». Што было далей у гэтай калыханцы, не ведаю, бо хуценька засынала, каб не слухаць жахлівыя спевы мамана Аксаны.



Наагул, мамане Аксане песня ў жыцці неаднойчы дапамагала. Хтосьці просіць, хтосьці крычыць, а мамана Аксана заспявае, і таташ Яраш ужо на ўсё згодны.

Праўда, і таташу Ярашу песня ў нашай сям'і дапамагае, асабліва калі яна на словы мамана Аксаны альбо пра яе.









Вы запытаецеся: «А як жа з голасам і слыхам у дачэты Альжбэты?»

Лепей за маману Аксану. Лепей за таташа Яраша. Толькі таташ Яраш пра гэта не ведае. Я, калі спяваю пры ім, адмыслова жахліва фальшыўлю, бо, як вы здагадаліся, ён будзе згодны на ўсё, каб толькі я не спявала.

А пры мамане Аксане я спяваю цудоўна. Яна не нахваліць мяне таташу Ярашу. А ён маўчыць і з горыччу думае, што ўся ў маману Аксану дачэта Альжбэта ўдалася, і не выйсці ніколі яму са мною на адну сцэну.

Шкада толькі, што калісьці давядзецца прызнацца, што спяваю добра, бо вельмі ж хочацца з ім на гэтую адну сцэну.



# Рады не рады — мае парады:

Калі вы застанецеся ў хаце толькі з татам, праспявайце яму калыханку. А калі ён засне, можаце рабіць, што захочаце. А калі тата не засне, усё адно «дзякуй» скажа.

Мой вясёлы тата,
Будзе сноў багата.
Баю-баю, баю-бай,
Спі, мой тата, засынай.
Прысні абаранак,
Будзе добрым ранак.

Баю-баю, баю-бай,
Спі, мой тата, засынай.
А як выспіцца твой цень,
Будзе вельмі добры дзень.
Раю-раю, раю-рай,
Спі, мой тата, засынай.



# Смажаныя вожыкі

Сёння мамана Аксана паабяцала насмажыць вожыкаў. Сказала яшчэ, што гэта ежа для лянотных і скіравалася на кухню. Мне стала так шкада гэтых цудоўных мілых стварэнняў, што я затачылася ў куток на паддашку лецішча, слёзы цяклі ручаямі. Неўзабаве я адчула пах смажанага, слёзы пацяклі рэкамі.

Кліч «Гатова!» давёў мяне да таго, што я сваімі слязьмі стварала ўжо калі не сусветны, дык усялецішчавы патоп. А мамана Аксана не супынялася:

— Хадзі, дачэта Альжбэта, хутчэй, неверагоднае смакоцце гэтыя вожыкі! А якія калючкі! Я ім нават носікі і вочкі парабіла.

Урэшце мамана Аксана, не прычакаўшы мяне, прыйшла сама і пабачыла, што на мне сухога месца не засталося:

— Што з табой, дачэта Альжбэта? Ці ты не хочаш есці вожыкаў?

— Не хачу! — захліпала носам я і паабяцала: — Я не буду болей ленавацца. Буду парадак наводзіць і заўжды дапамагаць табе.

— Нешта дзіўнае,— усміхнулася мамана Аксана,— хіба я ўпікала, што ты лянуешся? Нешта не прыгадваю такога.

— Ага,— працягвала я,— ты ж сказала, што насмажыш вожыкаў і што гэта ежа для лянотных. А я не хачу есці вожыкаў, мне шкада іх.



— Але ж, дачэта Альжбэта, ты і надумала сабе. Гэтыя вожыкі ў лесе не растуць і ў клубочак не згортваюцца.

— А дзе ж яны растуць?

— Напачатку — на градзе, а потым — на патэльні. Гэтыя вожыкі — з бульбы. «А для лянотных», бо іх лёгка гатаваць, прынамсі, лягчэй за дранікі. Выцірай слёзы, хадзем паглядзіш.

І сапраўды — на талерцы ляжалі вожыкі: калючкі вытыркаліся ў розныя бакі, а вочкі іхнія весела зіхацелі...

З таго часу я вельмі люблю есці вожыкаў. А паколькі «гэта ежа для лянотных», і сама навучылася іх рабіць, у тым ліку і для хроснага Уладзіслава Ахроменкі, з якім, як высветлілася, здарылася гэткая ж гісторыя.

## Рады не рады — мае парады:

Абярыце бульбу і натаркуйце на вялікай тарцы. Дадайце яйка і крыху мукі. Перамяшайце, пасаліце па смаку. Сталовай лыжкай выкладайце на патэльню і чакайце, пакуль вожыкі падрумяняцца. Тады перагортвайце, грэйце вожыку другі бачок і выкладвайце на талерку. Носікі і вочкі можна зрабіць з гарошынак чорнага перцу альбо з чарнасліву. А паколькі вожыкі на сваіх калючках любяць насіць розную смакату, дык можаце пакласці на іх смятанкі ці салка, ці нават сочыва з брусніцаў і грушы. Смачна есці!

# Шкадаванне Дзюймовачкі



Хто не шкадаваў у сваім маленстве маленькую Дзюймовачку?! Якімі непрыемнымі і злымі пададзеныя ў гэтай казцы жабы і крот! А ў нашай сям'і гэта шанаваныя істоты, прыклад для жыцця і найгалоўнейшыя памочнікі.

Мамана Аксана любіць апавядаць легенду пра дзвюх жабак, што зваліліся ў гарлачык са смятанай. Адна здалася і патанула. А другая біла лапкамі, біла, збіла масла і выбралася.





— Так і ты, дачэта Альжбэта,— кажа мамана Аксана,— ніколі не здавайся!

А я і не здаюся. Пагатоў, што мая мамана Аксана і ёсць тая жаба, што збівае масла. Раней, праўда, ёй даводзілася ўвесь час збіваць масла. А цяпер толькі ўдома. Бо на працы Масла заўжды ёсць. Масла з вялікай літары, бо яна (а не яно) — маміна начальніца, казкі піша. Як я кажу:

— Маслам кашы не сапсуеш, Масла казкі не сапсуе.

Наагул, прыйдзеш у краму, а там масла сялянскае, вясковае, свойскае... А як было б весела прыйсці ў краму, а там ляжаць пачкі






«Алена Масла» з налепкамі з ейных казак.

Адно невядома, што тады было б з таташам Ярашам. Масла ён і так любіць, а тады, відаць, усю хату налепкамі заляпіў бы, нават вокны на зіму. Нічога не паробіш, таташ Яраш у мяне калі і не змагаецца да апошняга, як мамана Аксана, дык дакладна да апошняга захапляецца.

Вось неяк захапіўся ён скарбашукальніцтвам, а грошай на металашукальнік не было. Напачатку таташ Яраш проста корпаўся ў кратавінні — купках зямлі, што ўтвараюцца ад капання кратамі. То манетку знойдзе, то кавалачак кафлі. А неяк і завушніцу знайшоў, якую



нейкая паненка насіла на балі. Я ў яго запыталася, як жа ён здагадаўся, што паненка, а не пан? А таташ Яраш засмяяўся, маўляў, гэта нашыя часы такія заблытаныя, а раней было зразумела, хто што носіць.

Корпаўся, вядома, таташ Яраш не абы-дзе, а на замчышчах, закінутых панскіх сядзібах. Але ж калі, да прыкладу, у Крэўскім замку кратоў шмат, дык у іншым гістарычна значным месцы — ніводнага.

Нечы тата здаўся б, але не мой захоплены таташ Яраш. Ён калекцыянуе старажытныя музычныя інструменты, грае на іх. І, ведаючы, што змеяў зачароўвае флейта, а пацукоў — дудка, узяўся шукаць інструмент, які зробіць яго валадаром кратоў.



І знайшоў — такім інструментам сталася чорная акарына. Першая акарына была калісьці створана ў Італіі, і таму асабліва дзейнічае на кратоў каля будынкаў, узведзеных паводле праектаў італьянскіх дойлідаў.

Таташ Яраш пачынае граць на ёй, і краты з ваколіцаў гуртуюцца ў патрэбнае месца, і не проста гуртуюцца, а выкідаюць разам з зямлёю на паверхню ўсё багацце, праз якое адныя людзі траплялі за краты, а іншыя, дзякуючы яму, з-за кратаў выходзілі. У гэтым сэнсе і мінулыя часы, і нашыя аднолькава заблытаныя.



Люблю я жабаў і кратоў. А Дзюймовачку ўсё адно шкада. Шкадаванне са шкоднага маленства не высечаш сякерай, як і напісанае Андэрсенам (а не Шарлем Перо).

Рады не рады — мае парады:

Будынкі італьянскіх дойлідаў, да якіх раю вам з’ездзіць пасля таго, як прачытаеце мае гісторыі: замак Радзівілаў у Нясвіжы, Стары замак у Горадні, палац Тызенгаўзаў у Паставах, палац Валовічаў у вёсцы Свяцк. А можаце пакуль і не чытаць далей, вернецеся з вандровак — дачытаеце.

# Ці жахлівей жуйкі за дождж?

Хто не гуляўся ў сваім жыцці ў «гарады»? Мінск — Калінкавічы — Чавусы — Сураж — Жабінка... Шукаеш сабе горад на апошнюю літару папярэдняга слова і ніякага клопату. Калі добра гарады ведаць, можна доўга гуляцца. А яшчэ дапамагаюць у гэтай гульні ўпэўненасць і фантазія. Прыдумляеш горад, якога няма, і называеш без ніякіх хваляванняў. Асабліва добра такое праходзіць, калі побач няма мапаў і энцыклапедый — ніхто не праверыць цябе.

Таташ Яраш ведае шмат гарадоў. Ён нават любіць ускладняць правілы гульні: да прыкладу, два гарады беларускія, два — замежныя. Таташ Яраш кажа Карма, я — Астравец, ён — Ціраспаль, я — Лондан, ён — Наваполацк, я — Крупкі, ён — Іркуцк, я — Клайпеда... Альбо можна называць толькі гарады ў два склады: Мя-дзел — А-рол — Лю-бань — Ня-свіж — Жло-бін... Альбо... якіх толькі варыянтаў у нас няма з таташам Ярашам! Пры гэтым, выйграю заўжды я. Напачатку нават думала, што таташ Яраш паддаецца, але ён мяне ўпэўніў, што мне падаецца, што ён паддаецца.

А вось мамана Аксана заўжды прайграе таташу Ярашу. Я нават думаю, што яна яму паддаецца. Я чула, як бабуля казала мамане Аксане, што жанчына заўжды павінна быць мудрай, то бок ісці на саступкі. Але я нізавошта не паддамся. Змаганне павінна быць шчырым. І шчыраваць на нечую перамогу я не збіраюся.

Калі я выйграю ў таташа Яраша, ён павінен з'есці што-кольвек нясмачнае. Не каўбаску сухую, не вяндлінку гарадзенскую, не масліца лунінецкае, а, толькі ўявіце сабе, цыбулю, часнык, пастарнак, любісту альбо хрэн. Таташ Яраш, трэба прызнаць, мужна трымаецца, нават усмешка з ягоных вусаў паказваецца і маю выклікае. А мне ўжо нават самой хочацца прайграць, так шкада яго.



Затое мамана Аксана выйграе ў таташа Яраша, калі яны замест гарадоў гуляюць у пісьменнікаў. Скажа мамана Аксана: Маўр, а таташу Ярашу даводзіцца казаць — Рыд, мамана Аксана — Дзюма, а таташ Яраш — Агняцвет, Твэн — Наварыч, Чапек — Купала... І не ўзгадаў таташ Яраш пісьменніка на літару «А». І прайграў. І тут ужо ў маманы Аксаны іншая методыка пакарання. Яна не змушае есці таташа Яраша, як я, гэтак званую зеляніну, а сядае насупраць яго і сама есць сухую каўбаску, вяндлінку гарадзенскую, масліца

лунінецкае. І тут ужо ў таташа Яраша ўсмешка з-за вусаў не паказваецца.

Аднойчы таташ Яраш праз гульню ў гарады нават у паліклініку трапіў. Не, ён не пракусіў сабе вусну, калі мамана Аксана мяса паглынала, і ў яго не ўзнялася падвышаная гаркавасць ад маёй зяляніны. Не, у той раз ён гуляўся ў гарады са сваім сябрам Піфам, вой, Пітам (яны ў адным музычным гурце граюць «Піф-Паф», вой «Піт-Паф»). І, відаць, быў залішне стомлены, бо прайграў яму. А пакаранне было не такое, як у мяне і маманы Аксаны, харчовае, а стэрыльнае. Трэ было замяніць бабулю Піта, якая працавала прыбіральніцай у дзіцячай паліклініцы, пакуль яна зводзіць Піта ў дарослую паліклініку, бо ён вельмі баяўся лекаваць зубы.

Прыйшоў таташ Яраш у паліклініку, дала бабуля яму вядро, швабру і ножык і павяла Піта зуб выдзіраць. І як унучак у самым росквіце сілаў не выдзіраўся, але застаўся без зуба.

А гэтым часам таташ Яраш зусім замыліўся, мыючы падлогу ў паліклініцы. Як выявілася, цягаць швабру і вядро з вадою па такім месцы было найбольш простым. Таташ Яраш быў моцным, і ні рукі, ні спіна ў яго не балелі. Але ж галава! Галава расколвалася на часткі.

Толькі не падумайце, што ён галавой мыў. Зусім і не галавой. Проста ён ніколі не бачыў столькі дзяцей, якія крычалі, гарлалі, скавыталі, скуголілі і падвывалі. Адныя выраблялі штосьці з гэтага перад дзвярыма кабінетаў, другія — пасля таго, як выходзілі ад дактароў. Трэція прымудраліся паперамена крычаць, гарлаць, скуголіць і падвываць і да, і пасля.

Таташ Яраш пачаў урэшце разумець, навошта Пітава бабуля дала яму ножык. Трэба пужаць гэтых крыклівуцаў — відаць, прыбіральніца ў сучасных варунках павінная не толькі прыбіраць падлогу, але і прыбіраць крык. Таташ Яраш ужо хацеў паказаць бліскучы ножык асабліва невыноснаму хлопчыку, але вырашыў перапытаць у Пітавай бабулі, як гэта рабіць паводле правілаў. Бабуля ад такога пытання ледзьве не ўпусціла руку ўнучка, але сабралася з сіламі і патлумачыла таташу Ярашу, што гэты ножык не



дзяцей пужаць, а з-за спінак лавак аддзіраць жуйкі, якія дзеткі жуюць, а калі трэба ў кабінет доктара заходзіць, хуценька ззаду прыляпляюць.

І сапраўды, як толькі таташ Яраш адсунуў суседнюю ад ягонага вядра лаўку, жахнуўся болей, чым ад крыкаў. На спінцы можна было разглядаць сузор'і, але замест зорак былі сухія жуйкі. Таташ Яраш пачаў іх сашкрабаць пад тыя ж шалёныя крыкі і ледзьве не страціў прытомнасць.

Жуек таташ Яраш пасля вельмі доўга не жаваў і мне не набываў. Але ў рэшце рэшт вырашыў, што дождж жахлівей за жуйкі, бо прыбіральніцы па начах у дзіцячай паліклініцы не працуюць. А дождж працуе, калі мае ахвоту, і ўдзень і ўначы.

## Рады не рады — мае парады:

Яшчэ можна гуляць у вёскі, у вёсцы, па вёсцы, на вёсцы, каля вёскі і па-за вёскаю. І нават без вёскі можна гуляць. А вось не прачытаўшы маю кнігу — гуляць нельга.



## Паганкі сапраўдныя, альбо ўпрыгожаныя

На фіялетавы парасон не падаюць кроплі дажджу і не лятуць пацяруха ды сняжынкі, а... Ага, вы задумаліся, што яшчэ можа падаць на фіялетавы парасон. І толькі найбольш уважлівыя здагадаліся — на фіялетавы парасон падаюць грушы. Мы ж яго з маманай Аксанай на старой грушы пачапілі. А груша (у сэнсе дрэва) хоць і старая, грушы (у сэнсе плады) на ёй штогод маладыя.



Мне б вельмі хацелася, каб на фіялетавы парасон падалі фіялетавыя грушы. Але такіх не бывае, хоць грушы ў нас таксама рэдкага колеру (у сэнсе рэдкага для грушаў) — чырвонага.

Затое ў гэты ж час выспяваюць фіялетавыя ажыны. Ну што паробіш, як яны не могуць падаць на фіялетавы парасон. Затое іх файна пад фіялетавым парасонам есці.

Грушаў асабліва чакаюць таташ Яраш і восы. Ажынаў — тыя ж асобы з атрадаў джынсовых (у сэнсе таташ Яраш) і джалістых (у сэнсе восы). Каб болей грушаў і ажынаў дасталося таташу Ярашу, з восамі змагаемся я і мамана Аксана. На восаў, у адрозненне ад таташа Яраша, нашыя жахлівыя спевы не дзейнічаюць. А восавае

сапрана немагчыма не слухаць, маеш ахвоту ці не маеш. Пагатоў, што таташ Яраш шмат у чым сам вінаваты — бо надзвычай любіць слодычы розныя — усе сталы на лецішчы заваленыя ўсялякімі прысмакамі. Таташ Яраш, як аса, пралятаючы побач, што-кольвек са стала джыгае. Аднойчы гэтак хутка ляцеў, што ледзьве цукерку з асой не праглынуў. Але мамана Аксана ў гэты момант на іншую асу наступіла, тая яе ўджаліла, мамана Аксана закрычала, і цукерка разам з асой з рота таташа Яраша і выпала. Можна сказаць, уратавала коштам уласнага жыцця адразу дваіх — і асу, і таташа Яраша.





Пасля таго як нага маманы Аксаны адпухла, яна пастанавіла, каб увесь наш поўны эксклюзіў адпачыў ад паласацікаў. На сямейнай радзе доўга абіралі месца, дзе немагчыма знайсці слодычаў ні таташу Ярашу, ні дачэце Альжбэце, ні восам. І абралі — грыбное месца. Грыбамі восы не харчуюцца. А мы грыбочкі і ямо, і збіраем. Найгалоўнейшае — знайсці гэтае грыбное месца.

Мамана Аксана, як аматарка энцыклапедый, вычытала, што жнівень — найбагацейшы месяц на грыбы. І мы пайшлі адпачываць ад восаў. Тры кошыкі — вялікі, меншы і яшчэ меншы, тры ножыкі — вялікі, меншы і яшчэ меншы. І тры канапкі — вялікая, большая і яшчэ большая.






Як толькі мы ўвайшлі ў лес, вялікая, большая і яшчэ большая канапкі хутка зніклі ў вялікім, большым і яшчэ большым роце. Тлумачэнне было надзвычай абгрунтаваным — нам не патрэбны залішні цяжар, бо неабходна будзе цягаць нялёгкія кошыкі з грыбамі.

Але грыбоў не было, я залазіла пад усе елачкі, мамана Аксана — пад усе елкі, таташ Яраш — пад усе яліны. Грыбоў не было. Быў настрой. Паганы (не ратавала яго нават адсутнасць восаў, бо вельмі хацелася грыбоў).



Але ж наша поўна-эксклюзіўная сямейка не здалася. Таташ Яраш нагадаў, што асноўны прынцып нашага жыцця — суладдзе. А значыцца, калі настрой паганы — будзем збіраць паганкі. Добра было б іх збіраць пад «Вечны рух» Міколы Паганіні, але ж поўнае суладдзе бывае яшчэ радзей за поўны эксклюзіў.

І мы пачалі збіраць паганкі. Вось дзіва — наш настрой дужа хутка палепшаў. Бо яны былі надзвычай прыгожыя і арыгінальныя, з творчым падыходам да жыцця. Мы смяяліся, прыдумлялі ім назвы, бо, як казаў таташ Яраш,— ён знаўца толькі дзвюх паганак — бледнай і мамаы Аксаны.









Мамана ж Аксана хітра мне падміргнула і паведаміла таташу Ярашу, што спрачацца з ім не будзе, бо ў энцыклапедыі напісана, што паганкі — сапраўдныя, альбо ўпрыгожаныя. А яна, калі і не заўжды ўпрыгожаная, дык заўжды сапраўдная. Таташ Яраш, у адрозненне ад маманы Аксаны, вырашыў паспрачацца і прайграў мамане Аксане палачку. Не чарадзейную, але сухой каўбасы. Бо сапраўды існуюць паганкі сапраўдныя, альбо ўпрыгожаныя. Не грыбы, а род вадаплаўных птушак. Таташ Яраш іх таксама ведаў, але пад народнымі назвамі гагара, нырэц і нырчык.



Калі кошыкі былі поўныя паганкамі, у маманы Аксаны загарэліся вочы і знік голас, бо яна толькі і здолела паказаць наперад, дзе на паляне стаяў вялізны баравік, акурат на кошык таташа Яраша, таму мамана Аксана і паказала, што ён можа яго зрэзаць.





Мы ўзяліся высыпаць з кошыкаў паганкі і раптам пачулі: «Стой, страляць буду!» Таташ Яраш стаяў за некалькі метраў ад баравіка, а за некалькі метраў ад таташа Яраша стаяў вайсковец. У нас з маманай Аксанай з'явіліся галасы, мы закрычалі, рыхтык зрэзаныя паганкі, і кінуліся ратаваць таташа Яраша. Высветлілася, што адпачываючы ад восаў, мы зайшлі на вайсковае стрэльбішча, дзе акурат адбываліся вучэнні, таму па перыметры стаялі вайскоўцы і ахоўвалі сябе ад грыбнікоў ды ягаднікаў. Грыб нам зрэзаць, як мы не ўпрошвалі, не далі. Што крыўдна, побач з ім раслі яшчэ два — меншы і яшчэ меншы. Але таташа Яраша нам аддалі, і мы скіраваліся назад да восаў. З лёгкаю душою і лёгкімі вялікім, меншым і яшчэ меншым кошыкамі.



Калі мы прыйшлі на лецішча, восаў на дзіва паменела. Але дарэмна мы ўсцешыліся. Як выявілася, суседскі сабака Дзюсік з'еў усе цукеркі, што так любілі не толькі восы.

Мы ўжо з таташам Ярашам думалі, што будзем піць гарбату з мелісай і белым хлебам. Але ж у нас была мамана Аксана, а ў маманы Аксаны былі стратэгічныя запасы. І мы сталі іх знішчаць, пакуль тое не пачулі восы.





І да таго ж мамана Аксана, як сапраўдная паганка, прапанавала паразбіраць назвы грыбоў, калі ўжо нам не ўдалося іх пазбіраць. Адзіная ўмова — каб нікога не атруціць, усе грыбы павінны быць ядомыя. Нават калі іх ніхто есці не будзе.

Праўда, таташ Яраш прапанаваў, зважаючы на агульную стому, разабраць толькі па дзве назвы.




І прыдумаў: грыб, у назве якога хаваецца аса. Так, стомленасць далася ў знакі, мы з маманай Аксанай не здагадаліся пра **аса**вяк (падасінавік). Затое другі ягоны грыб быў лёгкі: сыра-ежка — грыб, які харчуецца сырам.



Мамана Аксана, як хатняя лекарка, узгадала грыб, якім можна пашмараваць ранку — зялёнку. А

як гасцінная гаспадыня, грыб, які прыехаў з суседняе краіны — польскі грыб.

Я ж пастанавіла стаць адмыслоўцам па жывёлах: кабылка — грыб, які можна карміць сенам, і лісічка — грыб, які любіць лазіць у курнік.

Звычайна пасля збірання грыбоў іх сніш усю ноч. А я сніла іхнае разбіранне. На жаль, запомнілася толькі шампанскае на печцы. Гэтак разабраліся шампіньён і печурыца. Што ёсць насамрэч адно і тое ж. Што можна смажыць, варыць, саліць, сушыць і марынаваць. І гэта не будзе марнаваннем часу. Прынамсі для тых, хто любіць грыбы. І поўны эксклюзіў.



## Рады не рады — мае парады:

Калі зараз не лета і не восень, і калі вы не нарыхтавалі грыбоў на зіму і вясну, грыбы можна прыгатаваць і без грыбоў. Да прыкладу, «ядомы неядомы», то бок мухамор — з яйка і памідора. Трэба зварыць яйка, зрэзаць ягоныя верхавіны і паставіць ножку, якая атрымалася, на талерку. Згары пакласці палову памідора. Белыя кропачкі намаляваць маянэзам. А вось баравік яшчэ прасцей зрабіць: просіш у мамы дзве катлеты і фантазіруеш.

## Еш не еш — усё адно смешна

Бываюць сем'і поўныя, няпоўныя і поўна-эксклюзіўныя. У мяне сямейная мелодыя пад нумарам 3. І гэта можна ўгадаць з адной ноты.

У поўна-эксклюзіўнай сям'і бываюць поўныя, няпоўныя і поўна-эксклюзіўныя страўнікі. Я люблю, калі страўнік поўна-эксклюзіўны. Калі ўсялякага смакоцця напхаў у сябе і паварушыцца цяжка.



І не трэба дакараць мяне за тое, што забылася на ежу духоўную, адно пра страўнік думаю. У нашай сям'і на яе не забываюцца. Але ж да поўна-эксклюзіўнага страўніка так пасуе поўна-эксклюзіўны гумар пра ежу. Дужа файна, калі вясёлыя гісторыі насамрэч адбываліся з сябрамі і знаёмымі.

— Мамана Аксана,— прашу я,— апавядзі пра сыр.

А мамана Аксана толькі гэтага і чакае.

— Прыехала мая сяброўка Алена з Швейцарыі і, зразумела, прывезла швейцарскага сыру, які, вядома ж, смяротна смярдзіць. Вырашыла яна пачаставаць гэтым сырам дырэктара. А дырэктар тое, што




не з'еў, паклаў у лядоўню, якая стаяла ў кабінеце ягонага намесніка. Сакратарка гэтага не ведала, і неўзабаве пад сакрэтам сказала Алене, што ў намесніка дырэктара смяротна смярдзяць шкарпэткі. Вось да чаго даводзіць патаемнае ўжыванне швейцарскага сыру ў Беларусі.

Таташ Яраш таксама, як і я, любіць уежныя гісторыі і просіць маману Аксану апавесці гісторыю пра віно. Мамана Аксана з прыемнасцю ўзгадвае:

— Сабралася ехаць мая іншая сяброўка Алена на Чорнае мора і пытаецца: «Што табе прывезці?» А я ёй кажу: «Мне Алена з Швейцарыі прывезла швейцарскага сыру, а ты прывязі мне з Крыма крымскага віна, толькі не сухога». І тут Алена пытае: «А як жа я

даведаюся, што яно не сухое?» — «Нічога,— супакойваю я,— на ім будзе напісана — віно мокрае».

А мамана Аксана болей за ўсё любіць гісторыю пра беларускія буракі. Жах, а не гісторыя. Наконадні Новага года ладзіла мамана Аксана вечарыну і запрасіла Ганну Смалянку. А трэба адзначыць, колькі Ганну не запрашаюць, яна заўжды збіраецца і ніколі на вечарыну не прыходзіць. Не, яна сапраўды збіраецца, але не даходзіць. Вось і гэтым разам Ганна нафарбавалася, учасалася, апранулася і ў апошні момант з нейкай нагоды выйшла на балкон. Увесь гаўбец быў заліты крывёю. Забойства — мільганула ў ейнай галаве. Ганна знепрытомнела і завалілася ў гэтую кроў. Добра, што яна была апранутая для выхаду на вуліцу, таму і не замерзла. Як замерзлі ейныя беларускія буракі, а калі надышла адліга — расталі. Дарэчы, беларускія маразы дапамаглі ёй не прыйсці і на вечарыну, якую мамана Аксана ладзіла пасля Новага



года. Гэтым разам у Ганны замерзла колькі мяхоў бульбы. Яна закаркавала ёю смеццеправод і драўляным калом прабівала яго не так доўга, каб вечарына скончылася, але гэтак доўга, каб стаміцца і не пайсці.

А яшчэ адна сяброўка маманы Аксаны Рэгіна набыла «Кіеўскі» торт, а ён — цалкам салёны. А яшчэ адна пабіла ў аўтобусе на галаве дзядзькі дзясятак яек. Выпадкова. Бо ўсё насамрэч смешнае адбываецца выпадкова і напачатку смешным не падаецца.



## Рады не рады — мае парады:

Калі з вамі здараліся вясёлыя і смачныя гісторыі, лістуйце мне на адрас:
DachetaAlzhbeta@tut.by

## Дзеялоў



Бывае, што ў нашай сям’і нічога не адбываецца. Поўны штыль, як кажуць людзі, улюбёныя ў мора, альбо, як кажуць людзі, улюбёныя ў палітыку, поўны застой. У-у-у-у-у-у-у! — як я яго (штыль альбо застой) не люблю. Але гэта ненадоўга, бо штыль — не наш стыль, а застой — не наш настрой (побач не стой). Зразумела, што ёсць толькі тры асобы, якія з яго могуць выцягнуць: таташ Яраш, мамана Аксана і дачэта Альжбэта.

Гэтым разам выцягвала я. Не, напачатку я, вядома ж, спрабавала прычакаць гэткай працоўнай дзейнасці ад бацькоў. Але ж мамана Аксана штылявала сабе на лецішчы, а таташ Яраш штыльна прыязджаў са сталіцы. Што ж, толькі трыванню дзеясловаў няма канца (хоць і яно бывае закончанае). А я ж — не дзеяслоў. Я — дзеялоў. Я лаўлю дзеі, альбо яны ловяць мяне.

І вось падчас наступнага прыезду таташа Яраша, пакуль мамана Аксана шчыкала паболей пятрушкі з кропам, каб на каўбасцы сэканоміць, я і шапнула таташу Ярашу, што чула, як мамана Аксана апавядала сяброўцы Ганне Смалянцы, як да яе начамі нехта прыгожы

лазіць у акно. Адно шкада, як казала мамана Аксана, што маўчыць. Таташ Яраш, як пачуў такое, аж штылянуўся, вой, скалануўся. Ага, вось так штыльператвараецца ў рух скалаў — дзеялоў атрымаўся. І ўдавам пачаў абкручвацца вакол штыльнага жыцця.

Мамана Аксана, безумоўна, заўважыла падчас вячэры, як таташ Яраш накручвае свой вус, але калі запытала, ці не здарылася чаго, таташ Яраш сказаў, што проста думае, як злавіць аднаго начнога вусеня. Мамана Аксана прапанавала дапамогу, але таташ Яраш хацеў сам знайсці рэдкі экзэмпляр.



Ён скіраваўся на пошукі, я ўдала, што заснула, і мамана Аксана пайшла ўкладвацца спаць на свой другі паверх. Яна адчыніла акно і прашаптала: «Ну, дзе ты, мой мілы…» Слова «сябра» дамовіць мамана Аксана ўжо не паспела. З цемры нехта выскачыў і шалёна зароў. Мамана Аксана зараўла слёзна. Я зрабіла выгляд наадварот — што прачнулася.

Паўгадзінныя высвятленні пралілі святло на ўдалае заканчэнне штылю. Таташу Ярашу быў паказаны злодзей, які залазіў у акно. Гэта быў вусаты вінаград, які рос пад акном.

Таташ Яраш, як мы даведаліся, тэлефанаваў Ганне Смалянцы і запытаўся наўпрост, ці апавядала мамана Аксана, што да яе ў акно лазіць прыгожы маўклівы тып. Тая толькі і паспела сказаць: «Так!», як тэлефон адлучыўся. Да таго ж ён, як сапраўдны Шэрлак Холмс, даследаваў зямлю пад акном і пабачыў сляды драбінаў, але ж не даўмеўся спраўдзіць, ці чыстыя шыбы, бо мамана Аксана якраз стоячы на драбінах іх мыла.



У рэшце рэшт за недавер мамане Аксане таташу Ярашу давялося адкаркоўваць шампанскае. І я атрымала сапраўдны салют. Бо не толькі корак даляцеў да столі, але і амаль усё змесціва бутэлькі даляцела да яе. Кроплі ззялі, як зоркі, і раптам мы ўсе ўзгадалі, што ёсць жа і сапраўдныя зоркі, на якія абавязкова трэба глядзець перад сном замест таго, каб не даваць веры блізкім.

## Рады не рады — мае парады:

Прычакайце цемры і выцягніце сваіх бацькоў на двор. Калі вы ведаеце сузор'і, у вас будзе цікавы занятак іх знаходзіць. А калі не ведаеце, дык у вас будзе не меней цікавы занятак іх прыдумляць і даваць ім назвы.

## Яшчэ адна начная гісторыя

Прыехалі неяк адвячоркам мы з маманай Аксанай на лецішча. Мы заўжды адвячоркам прыязджаем, бо ёсць такія птушкі — совы. А ёсць і такія людзі — совы. Яны кладуцца позна і ўстаюць позна. Яны не бачаць, як узыходзіць сонца, затое могуць любавацца зорным небам. І калі мамана Аксана — сава, і калі таташ Яраш — сава, дык цалкам лагічна, што я — савяня. Мышэй я, вядома ж, не ем, і нават крыху пабойваюся, але пра гэта далей…



Прыехалі, значыцца, мы неяк адвячоркам на лецішча, пазавіхаліся на гародзе, схадзілі на поле — дзень і скончыўся. Леглі ў ложак — а спаць не даюць нейкія шолахі. Я на адзін бок, я на другі бок — не магу заснуць. Мамана Аксана таксама круць-верць, круць-верць. Прыслухалася — мышы гойсаюць, і адкуль узяліся — быццам не было раней. Мамана Аксана ўстала, улучыла святло — цішыня. Трохі пахадзіла і зноўку легла. Я ўсцешылася, што можна спаць. Але па нейкім часе шоргат узмацніўся, а я знямела, зразумеўшы: «Гэта ж не мышы, так гучна бегаюць толькі… пацукі!» За колькі хвілін я ўзгадала безліч жахлівых гісторый пра людзей, загрызеных

пацукамі, і тузанула maману Аксану, каб тая ўлучыла святло. Яна ўлучыла, пахадзіла па хаце, пацукі, натуральна, схаваліся. Мы вырашылі зноўку легчы, але не да сну было. Незразумелае тупаценне чулася з усіх бакоў. Нам падалося, што злодзеі залезлі ў нашу пуньку. Мамана Аксана пабегла на вуліцу, але дзверы былі замкнутыя, а злодзеі, відаць, уцяклі. Мы зноў паспрабавалі заснуць, але дзе там заснеш, калі ўжо нестае фантазіі зразумець, што чыніцца ў хаце. Агульнай пастановай сталася чарговы раз улучанае святло.



Шкада, што з намі не паехаў таташ Я… раш я ўжо не паспела даказаць, бо на мяне глядзелі вялікія чорныя перліны вачэй. Я сканала б, калі б гэта была мая фантазія. Але ж не, ён сапраўдны — наш начны госць — вожык. Выпіўшы разам малака, мы «сказалі» адно аднаму: «Дабранач!» А ўранку мы з маманай Аксанай даведаліся, што вожыка нам падкінуў сусед. І гэта, паверце, найлепшае, што можа зрабіць кожны сусед у вашым жыцці.

## Рады не рады — мае парады:

Чытайце яшчэ пра герояў гэтай гісторыі:

1. Вожык — беларуская народная казка «Пых».
2. Мыш — «Прыгоды мышкі Пік-Пік» Людмілы Рублеўскай.
3. Сава — «Верабей, сава і птушыны суд» Уладзіміра Караткевіча.
4. Пацук — «Жабка і чужынец» Макса Фэльтаўйса.



## Падзенне на Беларусь



Так склалася, што я болей люблю дарослых, чым дзяцей. З імі мне цікавей. Асабліва калі гэтыя дарослыя, як дзеці. Што звычайна і бывае з мастакамі, музыкамі, пісьменнікамі і настаўнікамі. Праўда, настаўнікаў у мяне знаёмых няма. Толькі настаўніцы. Яны не толькі мае сябры, але і сябры маіх бацькоў. Ну што паробіш, не будзеш жа шкадаваць іх для маманы Аксаны і таташа Яраша. Вось Ганна Смалянка — сапраўдная смала. Яе лавай заліваюць розныя здарэнні альбо, як смала, прыліпаюць да яе.

Аднойчы яна, да прыкладу, упала на Беларусь. Не, не на гатэль «Беларусь» і не на ўнівермаг «Беларусь». На Беларусь без двукоссяў — нашу краіну. Упала — і ўся пакалолася. А як усё адбылося? Сабралася Ганна на госці да нас, мы якраз вырашылі вечар паэзіі Уладзіміра Дубоўкі наладзіць, балазе што мамана Аксана паводле ягоных вершаў дыплом пісала. На жаль, не паводле ягоных казак. Але і вершы мне даспадобы. І вось назбіралі мы жоўтага кляновага лісця, якое так любіў Дубоўка, гарбаты запарылі, чакаем госцю. І

ўрэшце адчыняем дзверы, а там нехта падрапана-паколаты, ледзь не плача.

— Што з табой? Мо міліцыю выклікаць? — злякалася мамана Аксана.

— Не дапаможа! — горка сказала Ганна Смалянка.— Я на Беларусь упала.

І тут мамана Аксана і таташ Яраш як сталі рагатаць — не спыніць. Я напачатку не зразумела, але пасля мне патлумачылі, што Уладзімір Дубоўка напісаў знакаміты верш «О Беларусь, мая шыпшына!». А наша Ганна дарогаю звалілася на шыпшыну — Беларусь.



Смех ратуе, а пагатоў — паэзія і гарбата з шыпшыны. Так што вечар атрымаўся. Назад мы ўжо Ганну праводзілі, каб зноў яна на Беларусь не ўпала.

А дарогаю мамана Аксана апавяла, што ейная мама, то бок мая бабуля, пісала дыплом паводле кнігі Мікалая Асеева «Аксана», таму і ў мамы Аксаны такое імя.

«Во, як уплываюць гэтыя дыпломы! — падумала я.— Божухна, як добра, што мяне Наля не назвалі, бо ёсць у Дубоўкі кніга «Наля».

І добра, што я не хлопчык, а то б маглі назваць — Альжбэт. Ёсць жа выпадак, калі думалі назваць дзяўчынку Рагнеда, а нарадзіўся хлопчык і атрымаў імя Рагнед».

## Рады не рады — мае парады:

У кожнага з тых, хто чытае тое, што я пішу, ёсць імя. І ёсць гісторыя, звязаная з гэтым імем. Чаму яго далі? Хто яго прыдумаў? Альбо ў гонар каго? Распытайце сваіх бацькоў. А яшчэ ёсць імёны, якія вам, магчыма, хацелі даць, але не далі. Пацікаўцеся! Вось мяне, да прыкладу, хацелі назваць Свабода. І я яе вельмі люблю.

## Альж-бэта-карацін

Прачынаецца Альжбэта —
наступае ў хаце лета,
прачынаецца Аксана
і пяе жыццю: «Асанна!»
Прачынаецца наш таташ —
справаў мае ён багата ж,—



так спявае мамана Аксана зранку, калі я прачынаюся. І гэтыя спевы, у адрозненне ад калыханкі, ужо ніяк не абмінуць. Але і трываць іх лягчэй. Пагатоў, што я люблю лета. Гэта таташу Ярашу меней пашанцавала, бо як пяецца ў песні — «справаў мае ён багата ж», а як той казаў, з песні словаў не выкінеш.

Справаў можна пазбыцца толькі тады, калі захварэеш. Але ж хто хварэе ўлетку? А лета, дзякуючы мне, у нашай хаце заўсёды. Да таго ж, я ў нашай сям'і выконваю вітамінную ролю, бо мяне з маленства перарабілі ў Альж-бэта-карацін — найлепшы вітамін для мамы і для таты, для дзеда і для бабы, і нават ваўкалаку найлепшы ві-

тамін — Альж-бэта-карацін. Я і намагаюся заўжды вітамінізаваць усіх — падкласці вясёлыя міны. Файна, безумоўна ж, насыпаць у кожную ягаду-малініну солі ці падсыпаць у рондаль, у якім варыцца бульба, цукру. Альбо яшчэ больш карысна абраць часнык, расціснуць яго і запіхаць у цюбік з зубной пастай, калі таташу Ярашу і мамане Аксане трэба спяшацца на важную сустрэчу. Той, хто першы з іх пачысціць зубы, у таго і будзе найважнейшая сустрэча.

Наагул, каб сям'я была здаровая, у кожнага павінна быць свая роля. Калі ў мяне вітамінная, дык таташ Яраш датрымлівае ў сям'і водна-мінеральны баланс. Праўда, вада ў яго бывае і чырвоная, і залацістая, і зялёная, і мамана Аксана перыядычна бярэ пробы гэтай вады. Часам яна сама зелянее ад гэтых пробаў, а часам і весялее. Таташ Яраш таксама любіць мінеральныя міны падкладаць. Вось неяк узяла я пляшку з мінералкай, глынула, і тут горла як апякло «мінераламі», слёзы з вачэй паліліся. Весела было.

Вітаміны і мінералы вельмі неабходныя для сямейнага арганізма, але як жа без асноўнай ежы?

Мамана Аксана, улічваючы сваю таўшчыню, выконвае ролю супавога набору. Як кажуць аптымісты, былі б косткі, а мяса нарасце.

Вось яно і нарастае на мамане Аксане. Гэтаксама доўга, як не наступае ў Беларусі лета, і гэтаксама мала, як лета працягваецца. Лета ў прыродзе, а не ў нашай сям'і, дзе ёсць фіялетавы парасон на старой грушы і я, не нейкая пігулка, запакаваная ў скрыначку, а вясёлы і карысны Альж-бэта-карацін.







**Рады не рады — мае парады:**

Весяліцеся, як можаце, жартуйце, як могуць вытрымаць бацькі. І не забывайцеся, што не толькі маё жыццё з маманай Аксанай і таташам Ярашам — поўны эксклюзіў, але ж і жыццё вашай сям'і, пра якую вы можаце напісаць самі, і тады чытаць буду я.

Ваша дачэта

Альжбэта



# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**СПРЫНЧАН** Аксана Вадзімаўна

**ТАТАШ ЯРАШ, МАМАНА АКСАНА, ДАЧЭТА АЛЬЖБЭТА. ПОЎНЫ ЭКСКЛЮЗІЎ**

*Гісторыі з-пад фіялетавага парасона*

Рэдактар *Э. В. Карбановіч*
Мастацкі рэдактар *В. І. Сенчанка*
Тэхнічны рэдактар *Л. І. Астрэйка*
Стылістычны рэдактар *М. М. Адам*

Падпісана да друку 11.03.2013. Фармат 90×70$^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Candara. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ул.-выд. арк. 3,74.
Тыраж 2500 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Праспект Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Артыя Груп». ЛП № 02330/0150047 ад 05.03.2008.
Вул. Кастрычніцкая, 19, 220030, Мінск.
www.artia.by